УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)
Ю 19

Серыя заснаваная ў 2000 годзе



**Южык, М.**

Ю 19 Сузор’е вокнаў: кніга паэзіі / Міхась Южык — Мінск: Галіяфы, 2012.— 112 с. — (Другі фронт мастацтваў).

ISBN 978-985-6906-74-2.

Кніга “Сузор’е вокнаў” — спроба аўтара ў жанры лірычнай паэзіі, яго светапогляд, выяўлены ў вершах, напісаных цягам апошніх гадоў. У зборніку таксама змешчаны пераклады твораў Эдгара По (“Крумкач”), Івана Буніна і Барыса Пастарнака.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-6906-74-2** 

* * *

Дзе крынічныя воды
пырснуць з цёмнай зямлі,
там адвечнай свабоды
возьмуць старт караблі.

Мора штормамі тужыць,
і лютуюць вятры.
Там паўночныя сцюжы
і паўднёвыя сны.

Карабель не патоне
ды адужае хваль
звар'яцелыя стогны
і бязмежную даль.

Астравы нехта згледзіць
за туманнай сцяной,
там народзяцца дзеці
і прыдбаюць спакой.

Будзе множыцца племя
блаславёнай зямлі,
іх здаровае семя
павязуць караблі.

Даль туманная прыме
новых суднаў прыход,
новых сейбітаў кіне
у людскі радавод.

* * *

Кім мы станем пасля, як закрыем
павекі
не на міг, не на ноч, а ў магільнай
цішы?
Проста трупам, дзе высахлі кроўныя
рэкі,
проста памяццю, той, што каштуе
грашы?

Мне адказвалі многія, толькі пытанне,
пералжыўшы адказы, нанова ўстае:
кім мы станем пасля, як суцішым
дыханне,
як дадзім угнаенне парослай траве?

Кім мы станем пасля? Не чакайце
адказу,
без яго лёгка жыць і сыходзіць лягчэй.
«Кім мы станем пасля?!» — я гукаю
штораз у
тым не менш у бязмоўную вусціш начэй.

* * *

Каменьчык, што ў душы на дне,
наводзіць думы.
Гасцюе вечар у мяне
з таемным сумам.

Гляджу на поля далягляд,
дзе крочыў прама,
дзе векаваў калісьці сад
за белай брамай.

Не страшыць восені прыход,
адно ўздыхаю,
што не крануўся цёплых вод
чужога краю,

што ў запаветныя палі
не забрыдалі
ступні мае... Святой зямлі
не зведаў далі.

* * *

Важкі мяшок за плячыма вісіць —
жарсцяў цяжар.
О, каб змагчы мне калі прытушыць
вечны пажар...

Полымем буйным гару што ні дзень.
Талай вады
дзе адшукаць, каб напіцца з калень,
збыцца бяды?

Вецер, што ў твар б'е на кожным шляху,
жывіць агонь.
Думак пякучых тугую раку
слухае скронь.

І кіламетры згусцелай вады
жвава цякуць —
колеру меднай падземнай руды
бурная муць.

## Люстэркі

Я ў пакоі стаяў, а па сценах віселі
люстэркі,
пасылаючы ў розных выявах аблічча
мае.
Напалохана іх назіраў нейкім зрокам
памерклым,
нібы вечар вакол, нібы ноч у душы
настае.

А між тым асвятлялася дзіўная зала
яскрава,
грала музыка маршы, і чуліся спевы
і смех.
Кідаў позіркі я ўзад, уперад, налева,
направа —
адусюль выскаляўся адзін — мне
чужы! — чалавек.

То не я! Хоць нікога няма і не будзе
ў гэтай зале пустой, дзе ад музыкі сцены
трашчаць.
Адышлі, адспявалі, адмучылі тэрмін
свой людзі —

сталі зданямі ўжо, якіх будуць адно
ўспамінаць.

Я ж выразна лаўлю неспатольныя іхнія
стогны,
словы песень, дзе боль і туга па
няздзейсненым тут.
Толькі целаў не бачу, што поруч
у люстрах замглёных
пастаяць бы маглі... ці патанчыць,
каб збыцца пакут.

У люстэрках крывых бачу твару і постаці
ўздрыгі.
То не я! Бо ціхмяную, горкую ведаю
існасць сваю.
Нейкі вырадак, клоўн, нахабнік, дзве
пысы барыгі...
«Божа, дай мне люстэрка сапраўднае!» —
страсна малю.

А за сценамі стогнуць і выюць ужо,
не спяваюць,
і становіцца музыка з кожным акордам
гразней і гразней.
Ды, скажонае люстрамі, нешта кудысь
адлятае...

Слепну я... і звідушчваю раптам, і бачу
ясней.

То не сцэны, а лес, не люстэркі, а з возера
блікі,
што світальнае сонца шпурляе
ў істоту маю.
Зеляніну і водары, птушак абуджаных
крыкі
пазнаю,
пазнаю,
пазнаю,
пазнаю,
пазнаю...

* * *

Бегаў заяц па сценцы, імкліва,
трывожна —
чорны заяц на бляклай сцяне.
Пазіраў на яго, страх па клетачцы
кожнай
звонкіх нерваў імчаў да мяне.

Порсткі заяц скакаў ад падлогі да столі,
ад канапы да тоўстых дзвярэй.
Ноч стаяла ў акне — да адчаю, да болю,
да таго, што і смерці цяжэй.

Хмары шчыльныя месяц надзейна
хавалі,
і не зыркалі фары машын.
За акном цішыня, толькі жвавыя хвалі
змрочных думак варочалі млын.

За дзвярыма пакоя — таксама ні гуку,
ані шолаху ў прорве пустой.
Толькі заяц па сценцы начную дакуку
доўжыць вечную перада мной.

* * *

Мяце і мяце порсткі вецер
лісцё, і людзей, і час,
калыша сухое вецце
і радуе рухам нас.

Мы так тужліва здранцвелі
ў спякотнай дзён чарадзе,
дзе спалі, спалі і елі
без гора і без надзей.

А вецер мяце мятлою,
ганяе дым з камінoў,
памкненні ўздымае роем
і пыл з гарадскіх муроў.

Людзі шыбуюць жвава,
бягуць, хто куды, цяпер —
налева, затым направа,
мяняючы свой намер.

О, вецер, халодны, порсткі,
ганіцель крывей людскіх,
змятае жыцця абноскі,
звастрае і зрок, і слых.

Глядзіце на цуд небывалы,
што творыцца тут наўкол:
усё, што трывала спала,
скачкамі дратуе дол!

* * *

Забываю свой дворык,
што пад ліпамі спаў.
Зачыняю наш горад,
адліваю ў метал.

Металічныя сцены
атуляюць дамы.
Зніклі там перамены,
пазмаўкалі грамы.

Дзе кружыўся калісьці
лістападу хаўрус —
там сталёвае лісце
і заржаўлены друз.

Забываю свой дворык,
дзе трава ў дзьмухаўцах,
дзе на яблыні спорна
падаў снег і не чах.

Дзе вясною цявінкі
прарасталі на свет,
дзе гітараю брынькаў
неўгамонны сусед.

Скрозь кастрычніка слоту
афарбоўваў мастак
мілы двор пазалотай,
у барвянец і мак.

Ах, як хочацца босым
па мінулым імчаць...
Як вярбовыя косы,
успаміны вісяць.

Толькі ўсё забываю,
адліваю ў метал
горад з краю да краю,
двор, што ў зацені спаў.

* * *

«За што ты гоніш мяне? —
пытаўся Хрыстос у Паўла. —
Як сябра майго кранеш —
мне след нанясеш крывавы.
Крывавай дарогай ісці
табе ў накірунку іншым,
няходжаных пуцявін
адольваць балюча вышы.
Язычнікаў цытадэль
даю табе ва ўладанне...»
І Павел з калень глядзеў,
як Госпад раптоўна кануў.
І зноўку цяжкі замок
вісіць на дзвярах Нябёсаў.
А Паўлу — разбег дарог;
абапал — пяскі і росы.
Не крыж пры канцы, а меч
вісіць непазбежнай карай.
Пакуль жа — ланцуг сустрэч,
пакуль жа — крыляюць мары.
На Вечнасці рубікон
кіруе народы Павел.
Самому ж — вязніц загон
і меч, што жыцця пазбавіў.

* * *

«Што можа выйсці з Назарэта? —
смяяліся так з веку ў век.
— Хто можа там явіцца свету,
які нікчэмны чалавек?»

Што ў правінцыйным запусценні
і занядбанасці дурной,
дзе ад халуп кладуцца цені
на камень скосай маставой?

Дзе ходзяць да крыніц пад горку,
а потым цягнуць што ёсць сіл
збаны жанчыны. Лёс іх горкі,
як быццам Бог пра іх забыў.

А Ён між тым хадзіў раздумна,
па вулках, дворыках чужых
і назіраў са светлым сумам,
і напінаў нянаскі слых.

І чуў Ён кожнае стварэнне,
іх недагледжанасць і боль.
І малітоўна на каленях
празорваў крыж галгофскі свой.

А потым — доўгая дарога,
каб увайсці ў Ерусалім,
дзе іудзеі зганьбяць Бога,
дзе будуць суд чыніць над Ім.

Зямлю і неба паяднаўшы
крывёй пякучаю сваёй,
разрывам сэрца душы нашы
Ён маніць вечна за сабой.

«Што можа выйсці з Назарэта?» —
смяяліся так мімаходзь
у час Старога Запавету.
Як аказалася — Гасподзь.

* * *

«Ах, толькі б вам веры прыдбаць
хоць крыху! —
Збавіцель казаў перад шчыльным
натоўпам. —
Вядзі свайго сына, трымай за руку», —
і бацька падлетка наперад высоўваў.
А той, толькі ўбачыў Ісуса наўпрост,
імгненна зваліўся, зацяты нячыстым,
то курчыўся ў пене, то гнуўся, як мост,
з вачэй яго мкнулі шалёныя іскры.
А бацька падлетка, што побач стаяў,
усклікнуў прарэзліва: «Госпадзе, веру!
Ты б толькі нявер'ю майму паспрыяў!»
«Ты стукайся, дружа, адчыняцца
дзверы», —
прамовіў Ісус. Ціха плакаў стары,
а людзі ў здранцвенні вытрэшчвалі
вочы.
І голас раздаўся: «Нячысты, замры,
пакінь гэта цела, што б'ецца сіроча!»
Тут ахнулі ўсе, бо юнак як сканаў,
на ссохлай траве ён ляжаў скамянела.
Маўчанне ў натоўпе, а бацька рыдаў,
уперыўшы позірк у мёртвае цела.

«Ах, толькі б вам веры прыдбаць
хоць крыху!» —
паўтораны гучна Збавіцелем словы,
і Ён падышоў і сказаў юнаку:
«Устань і жыві, як раней, і нанова!»
Падняўся няшчасны і бацьку абняў,
і доўга стаялі яны ў анямені,
глядзелі, як вучняў Збавіцель забраў
і рушыўся з імі пад вечара цені.

* * *

Ілія і Майсей гаварылі з Ісусам,
пераўтвораным, белым і срэбным,
як снег.
Трое вучняў стаялі знямелым хаўрусам
на гары, дзе хвіліны спыняюць свой бег.

Узрушэнне і страх чаргаваліся хутка,
бо настаўнік паўстаў нечакана другім.
І не ў стане спасцігнуць іх розум
марудны,
і не ў сілах душа жыць імгненнем такім.

О, адкуль яны ведаюць, быццам прарокі
тут, на рысе нябыту, гаворку вядуць?
Ім вятры рассцілаюць пад ногі аблокі,
і надзею, і радасць аднекуль нясуць.

«Гэта Сын Мой любімы!» — пачулася
громам,
з нетутэйшага воблака пырснуў прамень.
І настаўнік ізноў стаў прывычна
знаёмым,
і расквеціўся фарбамі звыклымі дзень.

«Толькі помніце цвёрда: пакуль
не ўваскрэсну —
анікому ні слова, што бачылі вы!» —
і пакінуў Ісус гэта дзіўнае месца,
і спусціўся па схіле пад шолах травы.

* * *

«Душа Мая пакутуе смяротна!
Не сп**і**це, маліцеся, мілыя...»
Хоць вучням Яго было холадна, слотна —
валіў на зямлю іх астылую
ліпучы, назойлівы сон —
як быццам няўмольны закон.
«О, што ж вы спіц**е**, калі Мне адзінока,
калі папрасіў Я ў адчаі Айца
яшчэ хоць крыху вінаградныя сокі
папіць, не прыспешваць дарогі канца.
І ўсё ж падыходжу, відаць, да парога,
які пераскочу праз крыж і цвікі,
каб сталася марай для жыццяў убогіх
калісьці вось гэты парог перайсці.
О, што ж вы спіце гэтай ноччу цямравай,
калі немінучая варта ідзе!
Я чую, абутак іх шоргае ў травах,
і быць праз хвіліну жахлівай бядзе!
(Паверце, зыначыцца тая бяда,
і будзе для вас яна хлеб і вада.)
Хай будзе, як Ты, а не Я захачу,
хай страшна ў апошні Я міг закрычу,
хай люта праколе і сэрца Маё
калянае вострае рымлян кап'ё!

Цяпер прачынайцеся! Голас Іуды
разносіцца ўночы прысудам Маім.
І ўсіх вас чакаюць вялікія цуды.
І ўсе мы нязгасна цяпер узгарым».

* * *

Пячора. І камень груваcткі на ёй.
І Марфа з Марыяй рыдалі
па Лазару, што свой смяротны спакой
знайшоў, і яго пахавалі.

«А дзе ж наш Ісусе, чаму не спяшаў
да хворага на дапамогу?
Ах, страшна глядзець, як любімы канаў,
як скручваўся ў сутаргах рогам!

Ён поўны быў сіл маладых і надзей,
у некалькі дзён згас як свечка...»
Марыя і Марфа ў нясцерпнай бядзе
клялі гэты свет недарэчны.

Але не прайшло і паўдня, як яны
стаялі ў святым недаўменні,
тады як Ісус гаварыў: «Ён жывы!
Хай выйдзе сюды з царства ценяў!»

І камень адвалены ўніз паляцеў.
З пячоры магільнай і стылай
на радасць і страх самых блізкіх людзей
з'яўляецца Лазар іх мілы.

* * *

Чакаю зіму, калі снегам чысцюткім
пакрыюцца раптам двары,
калі завіруха парывам магутным
наведае садзік стары.

Я буду глядзець на стварэнне рэалій
найноўшых і змоўкну на міг.
Адкрыюцца зроку раскошныя далі,
і ўловіць дзівоснае слых.

Чакаю зіму. Не слату і бясснежжа,
а гурбы па першы паверх,
такіх маразоў, што бязлітасна рэжуць
і колюць праз футравы мех.

Пад снегам паснуць застарэлыя крыўды,
каб змыцца вясновай вадой.
Пры снезе мякчэй і танчэй краявіды
і тварык дзяўчынкі адной.

Мы будзем цяпло ашчаджаць
па крупінках
і будзем яго раздаваць

так шчодра, як неба ссыпае сняжынкі
ў бяздонную горада кадзь.

Чакаю зіму, што заносіць сцяжыны,
малюе нанова сляды.
Балючых узгадак панурыя спіны
запырскае снег малады.

* * *

Бывае, лісцік мільгане
за шыбай трэцяга паверха —
і саўгануцца на стале
паперы ў неймаверны вэрхал.

Успомніцца да ўсіх драбніц
ранейшай восені прытулак:
трамвай між жоўтых каяніц
нырае ў вузенькі завулак.

На тым прыпынку мілы дом
трохпавярховы паваенны.
(Мінулым годам ён на злом
пайшоў. Такія перамены...)

Але пад яварам стаяць
дагэтуль нашыя фантомы,
дагэтуль сілящца абняць
сваё каханне ў ціхай стоме.

Яго, вядома ж, назаўжды
мы не ўтрымалі, не спынілі —
як плыні свіслацкай вады,
як ластавак імклівых крылле...

Жывём сваім календаром,
гады сцякаюць ціхай сапай.
І толькі восенню ў наём
бяром мінулае за лапу.

Лістком апалым успамін
яднае светлыя жаданні —
на міг. І зноў жыццёвы млын
здрабняе шпарка нашы здані.

* * *

Вяз, рэдкі госць на вуліцах,
голле сваё раскінуў.
Стаіць пад даждамі курыцай
гэты лясны асілак.

Аранжавыя, салатава-жоўтыя,
лісткі яго вецер трэпле,
збівае на трасу мокрую
пад шыны, што фыркаюць вепрам.

Нашто ён тут нарадзіўся,
дзе пахне бензінам і газам,
дзе ўвосень і ўзімку лысыя
ўсе дрэвы абапал трасы?

Ялінаў і соснаў дзе ўжо тут
заўважыць яго пагляду!
Яны цяпер, незалежныя,
у лесе бясконцым радам.

І вечна яны зялёныя
(нават пад тоўшчай снегу).
А вяз скрозь макрэдзь замглёную
не бачыць аблокаў бегу.

Толькі машыны носяцца
і шаркаюць пешаходы,
кідаюць позіркі косыя
ў раз’юшанасць непагоды.

Не ўспомніць ніхто з прабеглых
пад асірочаным вязам,
як файна бетон і цэглу
прыгожыў ён летнім часам,

як лезлі пад шаты шчодрыя,
хаваючыся ад ліўня,
як моц і краса прыродная
нас да яго маніла.

* * *

Як святло ліхтароў кладзецца
на сумёты між хмызняку —
трапятлівае б’ецца сэрца,
паскарае крыві раку.

...Зімы падалі на асфальты,
на граніты і на ваду,
перакройвалі Мінска карту,
запаўняючы пустату.

Зімы падалі і мяшалі
фарбы горада ў малацэ.
Мы з табою тады спяшалі
на каньках па пустой рацэ.

Ясна помню агні і далі,
дотык вуснаў і валасоў.
Мы пад снегам тады схавалі
той зімы трапяткойназоў.

Вечары надыходзяць хутка,
ажыўляюцца ліхтары.
У акне ад марозу мутным
зорка ёлачная гарыць.

* * *

Кветкамі двор твой усыпаны.
Ну а на лаўцы кабеты
пад высачэзнаю ліпаю
дзеляць міжсобку сакрэты.

Травень. Натхненне і злагады,
зачараванасці месяц
лёг аксамітнымі травамі,
душы шчымлівыя лечыць.

Стоячы ціха за дрэвамі,
што гэты двор атачаюць,
чую мелодыю крэўную,
бачу найсветлыя далі.

Выйдзеш з пад’езда імкліваю,
лёгкай і пругкай хадою.
Дзверы хвілінку парыпаюць
на развітанне з табою.

Дзе мы нарэшце спаткаемся,
дзе, на якім раздарожжы?
Дзе мае сумныя запісы
ты расчытаеш прыгожа?

Сонца гарэзна высвечвае
цела ў блакітным адзенні.
Дворык, сцяжынай рассечаны,
перабягаеш імгненна.

Позіркам, стоеным позіркам
жвавую постаць праводжу.
...Цяжка ў кватэру марозную
я праз гадзіну заходжу.

Аркуш. І свечка запалена.
Хутка адтане кватэра.
Словы вагаюцца шалямі.
Блікі снуюць па шпалерах.

...Сню пад гадзінніка ціканне:
двор напярэдадні лета,
постаць пад цёмнаю ліпаю
між палымнеючых кветак.

* * *

Цені хвояў паляну накрылі.
Рыжы плёс. І сляды на пяску.
Белых чаек няўтомныя крылы
разам з ветрам трывожаць раку.

За аблокамі сонца схавае
свае промні, каб даць нам астыць.
І пад намі вада, як жывая,
будзе мерна ў Бярэзіну плыць.

Плёс шырокі, дзе Сінька і Свіслач,
аб'яднаўшы дзве плыні ў адну,
кіламетраў не меней за трыццаць
калыханку пяюць гушчару.

Вечны плёс. Ён ад сонца рудзее.
У вадзе пад схілёнай вярбой
целы рыбак луской палымнеюць
загараючыся ўразнабой.

...На пяску вечаруем ля вудаў.
Сонца ледзь пранікае скрозь лес.
І чакаем апошняга цуду,
покуль дзень канчаткова не счэз.

* * *

Вокны ўспыхваюць. Вечарэе.
Таямнічы мікрараён
накрывае крылом завея,
навявае паўночны сон.

Снежню ўвогуле характэрна:
мала сонца і шмат снягоў.
Выліваецца непамерна
на зямлю ледзяная кроў.

І дамы караблямі ў спудзе
між сумётавых хваль плывуць.
Па каютах — жывыя людзі,
ім не хочацца патануць.

Хто кіруе такой эскадрай
ва ўскалмачанай белізне?
Адмірал над таемнай картай
ноч цалюткую не засне.

Беспарадкава гаснуць вокны,
загараюцца зноў яны.
Пад вятроў несціханы рокат
адплываюць у ноч дамы.

* * *

Аднойчы вецер прашаптаў:
«Ляці і будзь свабодны —
у край непатаптаных траў
і грэчкавага мёду.

Ляці са мной, бо халады
зямлю спустошаць вашу.
Зглеюць дрэвы і кусты,
заледзянеюць пашы.

У краі тым, куды вяду
я птушак паднябесных,
ручай насвістае ў дуду
ў зачараваным лесе.

Ляці са мной, бо стылы лёд
скуе твае жаданні.
А я дару духмяны мёд
і сонечнае ранне...»

Я ветру веры не даваў,
прачнуўшыся на золку.
І бег у восеньскі правал,
распырскваў льду асколкі.

І клаўся зазімак тады
гаючы і празрысты
на ўсе пражытыя гады
і стрэсенае лісце.

* * *

Каштаны і клёны пад сонцам халодным
гараць размаітымі фарбамі лісця,
гараць перад самым зімы надыходам,
каб згаснуць бяздымна ў паветры
празрыстым.

Ідзём па лістоце застуджаным скверам,
сплятаючы пальцы памкненнем
адзіным.
Алея сыходзіць у вечара шэрань —
туды, дзе стаіўся ставок лебядзіны.

Няма тут прахожых і летняга тлуму.
Стаім удваіх перад роўняддзю цёмнай.
І вецер калыша таполі раздумна,
страсае лістоту з зажураных кронаў.

Прыснулі лябёдка і лебедзь у доме,
пад ніцай вярбой іх жытло
ледзь заўважна,
як тая кватэрка ў мікрараёне —
гняздо невялікае цёплае наша.

* * *

Між балацін пятляла Случ
і гушчарамі.
Глядзела сонца з вышніх круч
парой за намі.

І плыў байдарак караван
у фарбах светлых
паўз лес і паплавоў дзірван
скрозь водар лета.

Зігзагі порсткія стракоз
і птушак спевы...
Ля леснічоўкі хісткі мост
ледзь ацалелы...

Да самай Прыпяці ў лясы
рака збягала,
іскрыстых бруяў валасы
нібы хавала.

Яна паказвала штодзень
свой нораў дзікі,
яна ірвалася пад цень
і ў сонца блікі.

Але як сотні ручаёў
і рэк Палесся
ўлілася ў хор сярод гаёў —
адзінай песняй.

* * *

Пачуць Цішыню як пачатак
на рысе жыццёвых шляхоў,
прыняць Цішыню як дадатак
бяссіллю, каб рухацца зноў.

Люстэркі ўпадуць на аскепкі.
Здаецца, не скласці вам іх.
І нехта заплюшчыць павекі
і выпусціць роспачны ўздых.

А нехта аскепкаў бязладдзе
з цярплівасцю будзе складаць —
за праўду люстэркавай гладзі,
за тое, каб лепшымі стаць.

І кіпень садоў, і завеі,
і восеньскіх фарбаў распад
у новых люстэрках сагрэюць
зняверaных душ заняпад.

Глядзіце, яны адбіваюць
шчаслівыя твары адны,
глядзіце, яны не згасаюць
у змроку вакольным начным!

У іх — Цішыня, што расчулі
нямногія стойкія з вас,
аб іх разбіваюцца кулі,
у іх разняволены час.

* * *

Дзеці гулялі на школьным двары,
голас іх чысты
поўніў ваколле, ад іх галубы
бегалі быстра.

Мамкі глядзелі сваіх пестуноў
і гаманілі.
Дрэвы скідалі апошнюю кроў
восеньскай былі.

З гэтымі дрэвамі, дзе скрозь галлё —
небныя далі,
мы назіралі, як рушыць жыццё.
Мы назіралі...

Бегалі мы роўна так, як цяпер
бегаюць дзеці.
Час, як нячулы паспешлівы звер,
нас не прыкмеціў.

Мамкі глядзелі нашчадкаў тады
ў ветраным пылу.
Несліся міма не дні, а гады.
Восень астыла.

Хутка асветліцца, зрэшты, наш двор
і заіскрыцца,
белымі хвалямі ў шэры прастор
снежань прымчыцца.

* * *

Сцюдзёныя рэкі ў кастрычнік цяклі,
дрыжэла зямля і па самыя вушы
нацягвала коўдру. Лісткоў караблі
гайдаліся ў водах, як ззяблыя душы.

Нялёгкая доля — глядзецца ў раку,
празрыстую ўвосень, і бачыць каменне,
якое на дне, да якога руку
працягнеш, здавалася б, як да збавення.

Улетку не бачныя нам камяні,
што ціха па дне перакочвае рэчка.
Улетку галосяць птушыныя дні,
і коцяцца воблачкі статкам авечым.

Узімку не згледзіш падводных глыбінь,
што восень раздумная нам паказала.
Там будзе ўладарыць прывычная стынь,
там будзе пустая і цёмная зала.

Глядзімся, глядзімся ў чаканні снягоў
у рэкі празрыстыя і засынаем...
Цячэнне сплаўляе чароды лісткоў
па люстры сцюдзёным пад сцішаным
гаем.

* * *

Хутка скоціцца ў горад
ледзяная лавіна вятроў.
Прынакрыецца холад
шчодрай коўдрай пухнатых снягоў.

Мы стаім: твар да ветру,
пэўна зможам пад ім устаяць.
Ён ляцеў кіламетры,
каб лістоту ў шматкі разарваць.

Ты руку сваю моцна
да грудзіны маёй прытулі —
сэрца рытмам дзівосным
адгукнецца напевам зямлі.

І расчуем мы сокі,
што спускаюцца ў нетру яе,
каб залегчы глыбока
ды памкнуцца назад па вясне.

Жывіць стойкая памяць
пра вяртанне і кругазварот.
Хай заснежвае замець
гэты звыклай чарговасці год.

За навалай сняжыстай
прамільгнуць як адвечны спадзеў
навагоднія іскры,
цёплых зорак высокі пасеў.

## Мышынае войска

Па вуліцы гулка трамваі паўзуць,
дамы затаіліся ў вечара цішы —
дамы, дзе з людзьмі патаемна жывуць
увішныя хітрыя шэрыя мышы.

Мышамі прасякнуты шчыліны ўсе,
падвалы і схованкі зведаны імі.
Гавораць, адзін гэткі дом апусцеў
і болей нікога пад дах свой не прыме.

Трамваі паўзуць міма вокнаў яго,
у іх вечарамі шматлюдна і шумна.
А дом захінула паўцемры крыло,
глядзяць яго вокны пустэльна і сумна.

Мышыны кароль там праводзіць агляд
мышынага войска, што хутка пакіне
пустыя пакоі і пусціцца ў сад —
нячутным патокам па вузкай сцяжыне.

Запоўніць мышынае войска квартал —
жыллё, гаражы, прыбудовы і крамы.
А дом, што з даўнейшых часоў пуставаў,
апусціцца ноччу ў дажджы і туманы.

* * *

Калі маўчаць паэты Беларусі —
туманы апускаюцца на дол,
і хутка снег упраўна зацярусіць
краіну безнадзейных летніх сноў.

Яны маўчаць, бо гаварыць навошта,
калі аглухла шэрая зямля?
І толькі вершы з нетаропкай поштай
даносіць нам мінулае здаля.

Калі жывуць паэты ў аняменні,
шчырue завіруха ў гарадах.
І сноўдаюць па вулках злыя цені,
і селіцца наўкола дзікі страх.

Яны маўчаць, чакаючы пазову
сырой зямлі і зоркавых вышынь.
Маўчаннем, зрэшты, зберагаюць мову
і думак неразведаную плынь.

* * *

Вершы пішуцца толькі,
калі енкі ў душы,
гэтым скурчаным болем
паспрабуй напішы.

Вершы пішуцца праўдай,
што мацней за алмаз,
а яшчэ — зарападам
у суцішаны час.

А бывае, напішаш,
калі радасць праз край,
калі светлыя вышы
і расквечаны май.

А бывае, пачуеш
голас тонкі, не свой,
і страфу, як чужую,
створыць дзіўны настрой.

Без таемнасці вершы,
як бязводны ручай,
як здранцвелыя смерчы,
як спустошаны край.

Вершы пішуць надрывам
і экстазам такім,
што спыняюцца ліўні,
разбягаецца дым.

Там таемнасць і радасць,
там сляза і парыў,
і самоты цямравасць,
і вясны сонцазліў.

# АнтыПАРАДА

Гаварыце паўпраўду,
напаўголасу лепш,
пад шумок лістападу
гожа пішацца верш.

Па-майстэрску рыфмуйце
словы «кроў» і «любоў»
у марознай атруце
сярод вечных снягоў.

А яшчэ апускайце
вочы долу тады,
калі зладжваюць танцы
ў час крыві і жуды.

Не хлусню і не праўду
размяшчайце ў свой верш —
спакайней будзе гландам,
шыі будзе найлепш.

А то раптам расчуюць
існасць вашу — тады
паспытаеце куляў,
сербанёце бяды.

Ціха і памяркоўна
пражывайце свой век
у культуры бяскроўнай
пад зларадасны смех.

* * *

Сонечны зайчык лёг на падлогу,
лёг сярод крэслаў, зблытаных ног.
Сонечны зайчык прыйшоў на падмогу,
некаму ў нечым ён дапамог.

Стала святлей ад гарэзнага госця,
зоркі аддаленай пасланца,
што ад люстэрка адбіўся ў мілосці,
шлях свой адужаўшы да канца.

Промень, у стылым бязмежжы нябачны,
тут праявіўся ў дрэве і шкле.
Некаму стаўшы фрагментам нязначным,
плямкаю на пакаёвым дне.

А кацянё з ім гуляе сур'ёзна —
лапкай памацае, адбяжыць —
з госцем, што ўскочыў з пустэльні
марознай
і на падлозе хітра ляжыць.

* * *

Некалі стане чыста
ад смецця і шалупіння —
здзьме іх вятрыска быстры
пад жаўтавокай сінню.

Траўка памкнецца ўгору,
і запярэсцяць кветкі.
Будуць блішчэць азёры
і нараджацца дзеткі.

Будзе ўсё гэта, будзе
абавязковым чынам.
Вераць заўсёды людзі
ў Час, што шчыруе млынам.

Ён перамеле гора,
мукі ў муку зыначыць.
Будуць блішчэць азёры,
будзе не чутна плачу.

Некалі стане чыста,
вецер ужо нясецца
недзе над багнай мглістай.
Б’ецца ў чаканні сэрца.

* * *

Гэта ведаць няшкодна і кожнага разу
паўтараць пра сябе ланцужкі мілых слоў
пра радзіму, накрытую зменлівым
часам,
пра каханне, пра веру, надзею, любоў.

Так заведзена векам, што ціхае слова
дасягае да сэрцаў счарсцвелых тады,
калі шчыраю праўдай народная мова
паўстае на дарозе драпежнай бяды.

Гэта ведаць няшкодна, бо час
хуткаплынны
нас імкне ды імкне ўніз па рэчышчы так,
што страсаюцца косці і многае гіне...
Ды не гінуць муз**ы**ка, паэт і мастак.

Верагоднасць такая ў хвіліны няпэўнай,
што яна патанае ў стагоддзях заўжды,
толькі вобразы, м**у**зыка ў мове напеўнай
далятаюць ратункам праз тоўшчу жуды.

А таму намалюйце, зайграйце, стварыце
мноства вершаў, палотнаў, сімфоній
сваіх —

каб грымелі калоссем яны ў спелым
жыце,
мацавалі наступнікаў, цеплячы *слых*.

* * *

Для чаго гэта ўсё — шырыня
і працягласць,
непрадбачанасць дзеянняў, пэўнасць
ідэй,
зроку слабаму як ахапіць далягляднасць,
як спасцігнуць мільганне вакольных
падзей?

І адвеку жыццё называюць дарогай,
па якой рушым часта ў самоце пустой.
«Для чаго і навошта?» — пытаемся
строга.
Нам адказвае неба глухой нематой.

На шляху гэтым, зрэшты, нямала такога,
ад чаго сэрца радасна раптам трымціць,
і тады незаўважна благога, ліхога,
што рыхтуецца рэзаць жыццёвую ніць.

«Не курыце, не піце!» — мы чуем
нязменна,
і пры гэтым нязменна і курым, і п'ём.
Курым вецер, што ў лёгкія пнецца
нядрэмна,
п'ём пачуццяў і думак жывых вадаём.

Што рабіць слабакам? Нават дужы
Апостал
гаварыў, што, як трэба, не ў сілах зрабіць.
Выпадае нам плыць на загадкавы
востраў,
ненавідзець, знішчаць, будаваць
і любіць.

* * *

Снег, ці слата, ці сяброў забыццё,
хмара над гучшаю лесу,
ці загарлае няўзнак вараннё —
будзь як з жалеза.

Зрэдку, крадком, для сябе адтавай,
і для людзей нешматлікіх.
Неяк заззяе над горадам май —
зорны, вялікі.

А для работы няспыннай зямной —
гліна крутога замесу.
Не азірайся, на месцы не стой.
Будзь як з жалеза.

Ранак прачнецца за ноччу глухой,
тое ж — вясна за зімою.
Нервы зацятай хадой супакой,
чыстай вадою.

Вораг чакае памылкі ў цішы,
мост пад нагой хутка трэсе.
Нават наўкола калі ні душы —
будзь як з жалеззя.

Гукаў гармонію цяжка лавіць
у безназоўнай краіне.
Толькі спяваць — не раўнуючы жыць.
Песня не згіне.

* * *

Узяць аловак і паперу,
пусціць таропкія радкі,
глядзець, як чорнае на белым
стварае дзіўныя штрыхі.

Уся знявечаная праўда
і недабітая хлусня
зліюцца буйным вадаспадам,
які пабачыце здаля.

Шуміць ён, падаючы долу,
ды так шуміць, што не расчуць
усіх адценняў праўды новай,
хлусні заўсёднай каламуць.

Падоўгу стоячы, глядзеў я
на таямнічы вадаспад,
і бачыў чорнае на белым,
і затуманьваўся пагляд.

А літары гурмой скакалі
і ападалі з вышыні
на неразведаныя далі,
у незапоўненыя дні.

* * *

Свядомасць будуе сцены,
каб выжыць каторы раз.
На гладзі жыццёвай сцэны
застыў у чаканні Час.

Свядомасць хітруе часта
і хлусіць сама сабе —
ну проста каб захавацца,
не зраніцца ў барацьбе.

Яна на паддашак пхае
ўсё тое, што шалупонь.
Яна ноч на дзень мяняе,
распальваючы агонь.

Свядомасць нятленным скарбам
даецца за проста так,
яна — незлічонасць фарбаў,
а разам з тым і мастак.

Скарбонка шматлікіх сэнсаў,
бязмежнасць сама ў сабе,
пад цяжкім жыццёвым прэсам
яна да канца жыве.

А потым перажывае
і цела, і смерці дзень.
Бязважкая, адлятае
туды, дзе яе Агмень.

* * *

Мінулае згортвай у кропку,
і будучыні — няма.
Кіруйся хвілінай таропкай,
хвіліна падкажа сама,
як мысліць і дзейнічаць трэба,
куды павярнуць і калі,
каб зведаць надзённага хлеба,
каб годна ступаць па зямлі.
У гэтым мізэрным адрэзку
стагоддзі сышліся, стаяць…
Пад імі пашчоўкваюць трэскі,
над імі сузор'і вісяць.
Хвіліна, як вечнасць, абдыме
душу, што змарылася ўся,
натхніць і на крылах узніме,
адчыніць касмічны прасцяг.
Ты толькі не здраджвай хвілінцы,
адзінай між тоўшчы вякоў.
Яна твайго лёсу крыніца,
яна жыццядайная кроў.
Вы рушыце ў шчыльных абдоймах
наперад праз росны прастор,
дзе нізкія сцелюцца промні
ад сонца, што свеціць з-за гор.
Там стане няпэўнае ясным,

прасветліцца пройдзены шлях.
Мінулае будзе сучасным,
імклівым, бы крылаў узмах.

Мінулае згортвай у кропку,
і будучыні — няма.
Даверся хвіліне таропкай,
хвіліна скіруе сама.

* * *

Ганяю сваіх тараканаў
(як гэта няпроста парой!) —
псавальнікаў добрага стану,
калі не ў лагодзе з сабой.

Жывуць яны чэпка, пачвары,
хаваюць мой твар ад людзей;
замест яго — дзікія твары
і процьма агідных падзей.

Здараецца часам такое,
што сорамна, страшна сябе.
Але — гэта полчышча злое
пачвар у маёй галаве.

Не я гэта, верце! Спрабую
іх выгнаць паганай мятлой.
(Мо нейк у галоўку чужую
заскочуць і знойдуць спакой?)

Ды не! Калі гоніш праз дзверы —
праз шчыліны лезуць назад.
І чэрапа поўняць памеры,
і дружна жывуць з гадам гад.

Аднак я пароды зацятай,
да скону іх буду ганяць
праз церні, нягоды і страты.
(Надзею навошта губляць).

* * *

Паэт ён і ёсць паэт,
пасланнік зімы і лета,
ён носіць інакшы свет —
і скончыць бы сказ на гэтым.

Але ж непакой наўкол:
усіх ён сабой турбуе —
і ногі кладзе на стол,
не там і не з той начуе.

«Халера яго бяры,
дастаў! — пра яго гавораць, —
Як доўга ён нас дурыць
сабраўся, на розум хворы!»

Паэта лавілі ўсе,
каб вывучыўся манерам.
А ён — то засне ў расе,
то знікне ў сваіх хімерах.

Начамі трывожыць люд,
раве, забіяка кляты,
няскораны баламут,
няголены і памяты.

Няўлоўны, як тая здань,
у побыце невыносны,
сыходзіць у свой туман,
затым вечаруе ў вёснах.

А словы яго ляцяць
і селяцца ў душах рэдкіх —
дзе сэрцы яшчэ не спяць
і ў венах бушуюць рэкі.

Паэт, ён і ёсць паэт,
пасланнік зімы і лета,
ён знае інакшы свет —
і скончым цяпер на гэтым.

## Матулі

У ланцуговай працягласці дзён
будзеш ты з намі
перад маўклівым паглядам ікон,
мілая мама.

Колькі ж цяжару панесла ў жыцці! —
і анямела.
Божа, памілуй яе, адпусці —
лёгкай і белай.

Здужаем, любая, лёсу навал —
ты гартавала.
...Шчырай любові табе аддаваў
скупа і мала.

Здзейсніцца ўсё не законам людскім —
воляю Божай:
як і куды… паляцець ці пайсці
з гэтага ложа...

* * *

Хочацца сном зрабіць яву,
яву ж — у сон перайначыць,
каб ты глядзела ласкава,
без меланхоліі плачу.

Гэта магчыма, канешне,
спраўдзіць праз моцную веру,
хоць непазбыўна я грэшны,
хоць і няварты даверу.

Вер, тым не менш, я здалею
перакуліць час застылы
і у далонях сагрэю
твар твой халодны і мілы.

І пацяплеюць павекі,
шчасна расплюшчацца вочы,
будуць артэрыяў рэкі
грэць сілуэт твой дзявочы.

Хочацца бачыць бясконца
бег твой імклівы па травах
там, дзе паўдзённае сонца
з неба струменіць ласкава.

Хочацца бачыць усмешку,
што гармановірує з летам...
Вера не ведае межаў,
веру, што спраўдзіцца гэта.

* * *

Сонейка ранняе свеціць,
ветрык цярэбіць траву.
Побач гарэзуюць дзеці...
Лягу і мірна засну.

Сніць буду гэтае ж неба,
сонца і тую ж траву,
важную ў некім патрэбу,
ясную мне аднаму.

Ранак і поўдзень праходзяць,
вечар імкне наўздагон,
сонца паволі заходзіць,
праўдзячы вечны закон.

Выспаўся. Позірк па зорках
ціха блукае ўначы.
Сэрца зазабліва-горка
стукне і доўга маўчыць.

Быццам яно ўспамінае
воч непаўторны блакіт,
непераможнага мая
у дзьмухаўцах краявід.

Нават у доўгім маўчанні
сэрца свавольнага мне
бачыцца свежае ранне,
блікі на роснай траве.

* * *

Гулялі сялом вяселле,
дзе сонца на ўсіх адно.
У смак і пілі і елі,
ды скончылася віно.

І Маці сказала сумна:
«Віна на стале няма…»
Ісус паглядзеў раздумна,
пасунуўся ад стала.

«Не час яшчэ, рана, рана!» —
сумнеў прыпыняў Яго.
Ды вельмі хацела Мама,
каб ладам усё было.

Пакласці пачатак цудам
прыйшлося Яму тады.
Падумаў: «Стварацць ім буду
віно з найпустой вады».

«Наліце ў збаны да верху
ваду, і — за стол гасцям!» —
сказаў; паляцела рэха
дрыготкае ў Новы Храм.

Дзівіліся ўсе: *такое*
адкуль жа віно знайшлі?
Памкнуліся думкі роем
па гэтай святой зямлі.

Тым часам жа распарадчык
цішком жаніху казаў:
«Такое віно — астачай?!» —
дзівіўся і папракаў.

Хто ж мог Першы цуд уведаць
скрозь п'яную каламуць…
Бясконцыя цуды следам
у Вечнае пацякуць.

## Сіцылія

Мрою даўно ідылію,
як голас скрозь немату —
у сэрцы жыве Сіцылія,
над морам сады цвітуць.

Бурштынавым ясным раннем
спускаемся мы на пляж...
Сіцылія — як каханне,
як радасць і як міраж.

Парой непагоднай стылаю
скрозь слоту і вокнаў муць
прымройваецца Сіцылія,
духмяна сады цвітуць.

Здзяйсненне надзей, прыстанак
для збеглых ад сцюж людзей —
Сіцыліі ясны ранак,
калісьці і нас сагрэй.

Бяжыць за табою, мілая,
блік сонечны па пяску...
Над намі вісіць Сіцылія,
развейвае ўраз імглу.

Накочваюць хвалі плаўна
на бераг, цёплы такі.
Мы некалі ўсё ж праславім
Сіцыліі берагі!..

* * *

Ты камеліі кветка, і ружа, і бэз...
Не ўяўляю жыцця недзе воддаль і без
гэтых колеру бэзу глыбокіх вачэй,
без усмешкі такой, што дыханню лягчэй,
без адзення, дзе чырвань на фоне начы
пра каханне нязнанае слёзна крычыць.
Чырвань — шчырасць твая
ў хуткаплыннай крыві —
забруіцца крыніцаю крэўнай зямлі,
што напоіць, абмые ўсю існасць маю...
Ты — прычал нечаканы майму караблю,
што стаміўся па хвалях бясконца
блукаць,
што жадае таемна хоць берагам стаць,
супакоіцца, сцішыць вандроўны свой бег
і прымаць, як зямля, і спякоту, і снег.
Ты такая, што сцішваеш раптам вятры,
ты паўстала ў праменні сусветнай зары,
побач з сонцам стройнюткая постаць
твая —
там, дзе хораша бэз па вясне забуяў,
дзе камелія з ружай чырвоным гарацць,
дзе няможна спакойна на месцы стаяць
нават у адпачынку майму караблю,

бо люблю...
я люблю,
я люблю,
я люблю...

* * *

Раскажы мне казку калядную,
каханая, раскажы...
Будзь заўсёды такой пагляднаю
і сябе беражы.

Растае снег пад лёгкімі крокамі —
ты ідзеш да мяне.
А пад вейкамі, трохі намоклымі,
позірк мілы ў журбе.

Захінёмся нарэшце абдоймамі —
і панікне мароз.
Чуеш, воблачка мройнае
год чарговы прынёс?

А журба твая цёплая, светлая
ў гэту зорную ноч.
І гарацць пад касмічнаю нетраю
іскры здзіўленых воч.

* * *

Ідзе бясснежны новы год,
і мы з табой
чакаем гэты надыход
праз думак строй.

Памкненнямі мы ў той вясне,
што беражом,
калі зіма ў тваім акне
ідзе на злом.

Чытаем мы адно ў адным
той адрасат,
дзе шчасце поўніцца зямным,
дзе зарапад.

Гадзіннік спраўдзіць надыход,
і мы адны
вітаем золкі новы год,
як дар вясны.

## Калыханка

Час вячэрні, спі, малеча,
акунай прыгоды ў сны.
Гэтым часам сціхла рэчка
у зялёным гушчары.

Засынае ўсё наўкола —
горад, вёскі і палі.
Птушак сцішылася мова,
ноч царуе на зямлі.

Мама побач, спі, малеча,
заўтра дзень асвеціць нас,
будуць новыя сустрэчы,
пабяжыць цікава час.

Будзе сонца ліцца ярка —
сонца мілае прысні,
і ручай, што бегам шпаркім
паліруе камяні.

...Час вячэрні, спі, малеча,
пад матулін галасок.
Спяць сялібы і мястэчкі,
і гадзіннік сцішыў крок.

Сні прыгожыя дубровы,
вёскі ў сонцы і лугі.
Птушкі скончылі размовы,
спі, мой самы дарагі.

* * *

У час прастрацыі і смутку,
калі не бачыў белы свет,
сустрэў цябе, як вусны — дудку,
як вернік — Новы Запавет.

І вочы сталі бачыць раптам
такія далі і лясы,
што глухлі, мізарнелі страты,
мацнелі неба галасы.

Імя чароўнае ў мілосці
тваё я часта паўтараў —
і муза залятала ў госці
пад птушак спеў і шолах траў.

* * *

Квітнее даль высокая,
дзе росы на траве.
Табе, блакітнавокая,
прыпевачкі мае.

Ты зорачка гарэзная,
што ззяе над зарой,
калі прырода чэзлая
шчэ ранішняй парой.

Дзе плынь бяжыць глыбокая,
аблокі ў сіняве, —
з табой, блакітнавокая,
дзень сонечны жыве.

Вачэй тваіх праменнасцю
працяты я наскрозь,
яны ў сваёй нязменнасці
адужваюць мароз.

І восень, гразь намоклая
скараюцца, калі
мая блакітнавокая
красуе на зямлі.

Дзе травень, сад у квецені,
дзе дзьмухаўцы ў траве —
там у чаканні лецейка
дзень радасна жыве.

Дзе сонейка высокае
аблашчвае зямлю,
табе, блакітнавокая,
я песеньку пяю.

І дзень ляніва цягнецца
да вечара тады,
калі ад самай раніцы
усмешлівая ты.

* * *

Надышлі маразы, навaліліся.
Скрозь акно бледны месяц глядзіць.
І карункі на шыбе сцясніліся,
каб было весялей трохі жыць.

Гэта мудрасць прыроды адвечная —
каб на зямлі, дзе мала святла,
пасылалася літасць сустрэчная —
срэбна-белая пані Зіма.

Каб зямля не чарнела пад вокнамі,
калі сонца за коўдраю хмар —
завіруха імклівымі скокамі
распаляе сняжысты пажар.

Звечарэла. А ты не заўважыла,
назіраючы замеці бег,
разглядаючы самае важнае —
гэты чысты і радасны снег.

Надышлі маразы, выпрабоўваюць,
а наколькі трывучыя мы?
Лёдам горад паўсонны закоўваюць
— рэчку, вулкі, прыпынкі, дамы.

Спі, раднулечка. Заўтра світальная
белізна цябе ўсю ахіне.
Хай святлее над сінімі хвалямі
цёплы востраў у праведным сне.

* * *

Што жыццё чалавечае?
Гэта ява ці сон?
Так пытанне сустрэчнае
ставім веку спакон.

Добра жыць без пытальніка,
мерна лямку цягнуць,
бачыць зорку світальную,
ціха ў поўнач заснуць.

Напалам гора дадзена
нам са шчасцем заўжды.
Так жылі нашы прадзеды
праз гады і гады.

Шлях такі, што не збочваеш
ды назад не бяжыш.
І нягоды замоўчваеш,
і пра шчасце маўчыш.

То не радасць бязмежная
і не гора адчай —
то душа наша грэшная
спазнае небакрай.

* * *

Не драпежнік паказвае іклы,
не цягнік за пагоркам гудзе —
завіруха хрыпата і звыкла
аб сваёй абвяшчае хадзе.

Між дамоў і наўсцяж доўгіх вуліц,
набіраючы хуткасць і спрыт,
калі людзі ў кватэрах паснулі,
завіруха нясецца ў нябыт.

Заўтра ўстануць і скажуць: во дзіва,
свет пад коўдрай зімы не пазнаць!..
Будзе сонца ў сумётах шчасліва
разам з дзеткамі ў снежкі гуляць.

# ПЕРАКЛАДЫ

## Эдгар Алан По. Крумкач

Уначы, парой панылай,
калі з думкаю бяссілай
задрамаў я з мудрай кнігай,
з важкай кнігай у руках, —
то ачуўся ўраз ад гуку,
нібы нехта жвава стукаў,
быццам рэзка так застукаў
да мяне нязваны страх.
«Госць, — падумаў я, — чакае
за дзвярыма, а не страх.
Проста госцейка ў дзвярах».

Ах, сваволіла прырода,
выла ветрам непагода,
ценяў прывідных уроды
на падлозе паляглі.
Я чакаў з бясконцай далі,
покуль цені бушавалі,

памяць пра Лінор хавалі
за бязрадасныя дні,
пра святую, што ў Эдэме,
на аддаленай зямлі...
Згаслі тут яе агні.

Стылы шолах за парцьерай...
Пашчу жах сваю ашчэрыў,
паланіў мяне між крэслаў,
габеленаў, медных ваз.
З заміраннем сэрца, ціха,
прашаптаў я, каб не крыкнуць:
«Гэта госць стаіць нязнаны
за дзвярыма ў позні час,
проста госць таемны хоча
быць са мной на гэты раз.
Проста госць у змрочны час».

Акрыяўшы з перапуду,
рады госцю, нібы цуду,
«Выбачайце, пан ці пані,
ледзь расчуў у цемры вас», —
гаварыў я з парываннем
і з затоеным чаканнем,
і апраўдваўся дрымотай
ля каміна ў позні час...
Толькі расчыніў я дзверы,

цемра ў дом пранікла ўраз.
Толькі — цемра ў гэткі час.

Паланёны цемрай важкай,
я стаяў і дыхаў цяжка,
думкі сноўдалі такія,
нібы змеі з чорных нор;
доўга слухаў цішыню я —
непадатную, густую,
як са змроку раптам чую
слова цёплае: «Лінор!»
Гэта я шапнуў, а рэха
адказала мне: «Лінор!»,
мне вярнула як дакор.

Раззлаваны гэтай стратай,
зачыніўся, скрухай сцяты,
я, аднак, пачуў адразу
за дзвярыма тарарам.
«Той жа стук, мацнейшы толькі! —
думкі роспачнай іголкі
паімчаліся па нервах. —
Той жа госць ранейшы там...
Не! То вецер з аканіцай
усчынае тарарам.
Вецер — больш нічога там!»

Адчыніў я аканіцы —
Крумкач выйшаў, як з вязніцы,
з цемры вонкавай панылай,
азірацца важна стаў.
Потым пырхнуў на Паллады
бюст, усеўсяаграмадай
з выглядам паважным, рады,
мабыць, што мяне застаў.
Рады, што ў самотным доме
чалавека ён застаў.
Сеў, нічога не сказаў.

І, ачуўшыся аднак жа,
прыглядзеўся і заўважыў
я ўсю веліч гэтай птушкі,
чорнай, як сама бяда.
І сказаў: «Твой выгляд страшны
адначасна значны, важны,
называць цябе як скажаш,
ці ёсць назва хоць адна?
Сярод тысячы найменняў
ці ёсць назва хоць адна?
Каркнуў госць мой: «Пустата!»

Птушкі голас недарэчны
паласнуў мяне, як мечам,
бессэнсоўнасцю нахабнай

з галавы да ног абдаў.
Бо ўсім ясна, што не ў сілах
птушка поўначчу панылай
турбаваць жытло чужое,
як татарская арда.
Птушка, што на бюсце белым —
рыхтык чорная руда.
Птушка з клічкай Пустата.

Ён сядзеў так нерухома,
што здаваўся часткай дома,
гэты прыхадзень нязваны,
пасланец начы нямой.
Крумкачынай дзюбай страшнай
ён выцягваў жыцці нашы
і нагадваў пекла пашчу
пры канцы дарогі той,
што праходзім, каб дабрацца
да канца дарогі той...
Каб назвацца Пустатой.

Здрыгануўся я ўсім целам,
а Крумкач на бюсце белым
па-ранейшаму спакойна,
нібы ён са мной на «ты»,
касавурыўся, старэча.
О, навошта гэта стрэча

ў прыцемку Пуціны Млечнай,
ва ўладарнасці бяды...
Адбылася так раптоўна
ва ўладарнасці бяды!
Ды пад зоркай Пустаты.

Крэсла да яго пасунуў,
разглядаў з ранейшым сумам,
разважаў, а крык ірваўся,
з горла сіплы крык «Ратуй!
Развярні гаротны лёс мой,
пакажы паляны, плёсы,
і распырскай, сонца, росы,
адвядзі маю бяду.
Адвядзі, вярні на месца,
як у рэчышча ваду!»
Ды крычаў я ў Пустату.

Што за дзіўная разлука,
і за што такая мука —
не спасцігнуць мне давеку
на сваім пякельным дне.
Толькі люстры промень цьмяны,
толькі вечныя падманы
лезуць з памяці экрана,
як Лінор душу кране.
Пра Лінор святая памяць

як душу маю кране.
О, за што такое мне!

Падалося: серафімы
выплывалі ў пасмах дыму,
на дыван сцякалі проста,
як крынічная вада.
І спяваў я ў ачмурэнні,
ды маліўся аб збавенні,
мільгацелі гукі, цені,
піў я кубак свой да дна.
Піў любові непадзельнай
медны кубак свой да дна.
Крумкач каркнуў: «Пустата!»

Пракрычаў я: «Згінь, пракляты!
Дух пякельны, тваё краты
пагубілі ўсё на свеце,
што люблю я з даўніх пор!
Хто цябе сюды паклікаў,
што сядзіш у цьмяных бліках
ты на бюсце нерухома,
каркаеш, як злы дакор?
Ты чаму адзін і той жа
пасылаеш мне дакор?
Зыкнуў госць мой: «Nevermore!»

Паўтарыў я: «Згінь пракляты!
Дух пякельны, твае краты
перакрыжавалі веру,
веру даўнюю ў жыццё.
Ці ёсць Бог над гэтым светам,
або круціцца планета,
адзінокая планета
адлятае ў небыццё?
Адлятае, як лістота
з дрэў асенніх, як лісцё...
Божа, дай мне забыццё!»

«Пакідай мой дом самотны,
доўжыць дай спакой дрымотны,
— я падскочыў, крыкнуў: —
З ветрам ты ляці ў начны прастор!
Ані пёрка, ані духу
не пакінь сваіх, каб скруха
не вярнулася і вуха,
каб не чула з гэтых пор,
пра цябе не чула вуха
анічога з гэтых пор!»
Каркнуў госць мой: «Nevermore!»

Ён сядзіць дагэтуль, вечна.
За акном Пуціны Млечнай
зоркі ззяюць. Іх не бачу.

У гаркавую ваду
апускаю сны і мроі.
А Крумкач сваім спакоем
заварожвае і поіць,
корміць ён маю нуду.
Дэман, што ў аблíччы птушкі,
думу думае адну —
каб глядзеў я ў Пустату.

## Іван Бунін

Зноўку сон, чароўны і салодкі
сніцца доўга ў цішыні п’янкой:
мілы позірк кліча мяне ўпотай,
і усмешка вабіць за сабой.

Ведаю, — ізноў мяне падмане
дзіўны сон, ледзь ранак заблішчыць.
Ды пакуль сумотны дзень настане —
радасна падманам гэтым жыць.

*1898 г.*

## Барыс Пастарнак

## Першы снег

Вар’юецца мяцеліца,
бушуе ў поўны рост.
Засыпана газетчыца,
замецены кіёск.

Пры нашым доўгім побыце
здавалася парой,
што ў гэткім снежным рокаце
схавана плойма мрой.

Снег хітрасці бязмежныя
наладжваў, як ішоў,
пад белымі адзежамі
разводзіў нас дамоў.

Пакрыецца бялюткасцю
ўвесь гарадскі прастор, —
навобмацак па вуліцах
праходзіць цень у двор.

І рухі незнаёмага
таропкія — відаць,
камусьці нешта цёмнае
даводзіцца хаваць.

*1956 г.*

## Адмысловыя дні

Я цягам доўгіх снежных зім
сонцазвароту дні згадаю,
за кожным — створанае ім
і непаўторнасць дарагая.

Збіраў сабе такія дні
я адмысловай чарадою,
дзе час не рушыць, а стаіць
у сонца бліках пад сасною.

Я памятаю кожны з іх:
зімы сярэдзіна і слота,
прамень на коўзкіх маставых,
ільдзінкі ў яркай пазалоце.

І закаханыя хутчэй
стуляюць ціхія абдоймы,
на дрэвах, дзе праменны рэй,
пацеюць ад цяпла шпакоўні.

Замерлі стрэлкі ў дзіўным сне
на цыферблаце анямелым.
Даўжэй за вечнасць дзень ідзе,
гарэзіць сонца ў снезе белым.

# ЗМЕСТ

Літаратурна-мастацкае выданне

Другі фронт мастацтваў

**ЮЖЫК** Міхась

СУЗОР'Е ВОКНАЎ

Кніга паэзіі

Адказны за выпуск *Зміцер Вішнёў*
Дызайн *Яўгенія Багдановіч*
Вёрстка *Яўгенія Багдановіч*
Карэктар *Кацярына Макарэвіч*
У аўтарскай рэдакцыі

Падпісана да друку 11.01.2012. Фармат 60x84 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Гарнітура Century Gothic.
Друк афсетны. Ум. друк. арк 3,27. Ул.-выд. арк. 1,07.
Наклад 200 асоб. Замова

Прыватнае выдавецкае ўнітарнае
прадпрыемства "Галіяфы".
ЛИ №02330/0150300 ад 08.04.2008.
Вул. Брылеўская, 11-44, 220039, г. Мінск.
E-mail: vish@bk.ru
www.by-books.org

Друк ТДО "НоваПрынт".
ЛП № 02330/0552786 ад 25.02.2009.
Вул. Геалагічная, 59-4-10, 220047, г. Мінск.